№№145–146
(3684–3685)
18 верасня 2012 г.
Выдаецца з ліпеня 1995 г.
на беларускай і рускай мовах

Выдавец:
УП «Народная Воля».
Кошт — свабодны.

www.nv-online.info

# Народная Воля

*На простор, на шырокі разлог*
*Выходзі, мой народ, грамадою...*

**Якуб КОЛАС**

**Да ўвагі!**
*Хто хоча набываць газету ў офісе рэдакцыі — чакаем!*

ПОСТАЦЬ



# Максім Танк. 100 гадоў!

**Калі дзяржава мае сапраўдных паэтаў, тады і сама дзяржава сапраўдная!**
**Дзякуючы нашым вялікім нацыянальным паэтам, Беларусь і набыла маштаб дзяржаўнасці!..**
**Максім Танк — імя хрэстаматыйнае.**
**І гэта шчасце, што менавіта ў школьныя гады мы чыталі і вучылі на памяць — "Паслухайце, вясна ідзе...", "Павязлі цягнікі", "Лісце каштанаў", "Матыль", "Спатканне", "На пероне", "Яна хату бяліла", "Люцыян Таполя", а таксама іншыя творы Максіма Танка — песняра, які як творца пачынаўся з абароны роднага слова, з палітычнага змагання.**
**Для Максіма Танка родная мова з'яўлялася і цяжкім знакам лёсу, і прарочым сімвалам творчасці.**

На лозунг нашых ворагаў: "Няма ніякіх беларусаў і іх мовы..." — паэт адказваў:

*Калі няма на свеце маёй мовы,*
*Майго народа і мяне самога, —*
*Дык для каго будуеце, панове,*
*Канцылярыі, катоўні і астрогі?*

*Супроць каго рыхтуеце расправы*
*І шыбеніцы ўзносіце пад хмары,*
*Штодня арганізуеце аблавы*
*І ўсіх мабілізуеце жандараў?*

*Супроць каго рыхтуеце вы змовы*
*З прадажнымі і юдамі і з богам, —*

*Калі няма на свеце маёй мовы,*
*Майго народа і мяне самога!*

***(Артыкул Леаніда Дранько-Майсюка, прысвечаны паэту, чытайце на 6-й старонцы.)***

ЭКАНОМІКА

## *Найбольш падаражэлі яйкі і вышэйшая адукацыя*

За 11 дзён верасня цэны на яйкі павялічыліся на 4,6%, малако і малочныя прадукты — на 1,9%, гарэлку, паўфабрыкаты з мяса птушкі — на 1,8%, паўвэнджаную каўбасу — на 1,3%, пшанічную муку — на 1,2%, сухія малочныя сумесі для дзіцячага і дыетычнага харчавання — на 1,1%, вараную каўбасу першага гатунку, жывую рыбу, хлеб і хлебабулачныя вырабы — на 1%. Падаражэлі таксама тканіны — на 1,2%, электратавары — на 0,9%, абутак, жаночае адзенне — на 0,5%. Але рэкорд належыць паслугам вышэйшай адукацыі — рост склаў 10,3%.

Праўда, цэны знізіліся на моркву — на 11,9%, рэпчатую цыбулю — на 6,3%, бульбу — на 5,6%, буракі — на 4,9%, белакачанную капусту — на 4,4%, яблыкі — на 10%.

За студзень—жнівень цэны выраслі на 14,6%, з улікам 11 дзён верасня — на 15,5%.

## *Павінны выплаціць амаль мільярд долараў*

*Беларусі да канца года трэба выплаціць 943,2 млн долараў па знешніх даўгах. Гэта вынікае з апублікаваных Нацбанкам даных аб міжнародных рэзервах і ліквіднасці па стане на 1 верасня 2012 года.*

З гэтай сумы 269 мільёнаў неабходна выплаціць у верасні, а яшчэ 674 мільёны 200 тысяч — на працягу кастрычніка—снежня 2012 года. Аднак пік выплат прыпадае на 2013 год. Па планах Нацбанка, на выплаты па абавязках на працягу студзеня—верасня 2013 года спатрэбіцца не менш за 3,3 млрд долараў.

## *Прэзідэнты і нелегалы*

Аляксандр Лукашэнка і Уладзімір Пуцін у Сочы за зачыненымі дзвярыма правялі перамовы, вынікі якіх застаюцца невядомымі СМІ.

Але перад пачаткам сустрэчы Аляксандр Лукашэнка заявіў кіраўніку Расіі: *"Я хацеў бы вас праінфармаваць аб сітуацыі ў нас і не буду хаваць сітуацыю на нашай агульнай мяжы. Не такая яна радасная, на жаль, асабліва з пункту гледжання міграцыі. Наогул, усплёск вельмі моцны, я нават не магу зразумець, чаму і адкуль гэта".*

Цікава, што літаральна напярэдадні беларускія памежнікі выявілі цэлы лагер незаконных мігрантаў, які размясціўся ў беларускім лесе непадалёк ад стыку Беларусі, Польшчы і Літвы. Тут чакалі пераходу мяжы 36 грамадзян В'етнама. Прычым пры сабе яны не мелі ні грошай, ні дакументаў.

Як паведамляе прэс-служба Дзяржаўнага пагранічнага камітэта, першасным разглядам устаноўлена, што на тэрыторыю Беларусі в'етнамцы прыбылі з Масквы на аўтобусе. Прычым нідзе ў Беларусі гэты аўтобус прыпынкаў не рабіў, а в'етнамцаў везлі мэтанакіравана ў лясны лагер. Пра тое, хто рыхтаваў такі масавы незаконны пераход мяжы, хто даводзіў да ладу лагер, выкарыстоўваючы веданне беларускіх лясоў, пакуль нічога не паведамляецца.

**Ірына МАЛЬЦАВА.**

ГАЗЕТА — ЧЫТАЧЫ

## *Калі Вы не аформілі падпіску на IV квартал...*

*...пастарайцеся зрабіць гэта ў самыя бліжэйшыя дні. Пасля **27 верасня** ў любым падпісным пункце Вам скажуць: "Позна!" Таму выкарыстайце любую магчымасць, каб у IV квартале не застацца без любімай "Народнай Волі".*

## *Будзем разам!*

**Вы — з «Народнай Воляй», «Народная Воля» — з Вамі!**

ВЫБАРЫ-2012

# Сышлі з дыстанцыі

*У суботу ў штаб-кватэры Партыі БНФ адбылася другая сесія з'езда партыі, на якой пасля працяглай дыскусіі дэлегаты прагаласавалі за скасаванне свайго папярэдняга рашэння аб вылучэнні кандыдатаў у дэпутаты Палаты прадстаўнікоў. Такім чынам, Партыя БНФ дыстанцыруецца ад гэтых выбараў і заклікае выбаршчыкаў устрымацца ад удзелу ў галасаванні.*




Аднак варта адзначыць, што не ўсе дэлегаты з'езда аднадушна прынялі гэтае рашэнне. Тое паказала і галасаванне: 37 дэлегатаў — за зняцце з выбараў; 3 — супраць; 5 — устрымаліся.

Пачынаючы дыскусію, старшыня партыі Аляксей Янукевіч заявіў наступнае: "Яшчэ ў студзені 2012 года Партыяй БНФ былі вызначаны ўмовы і фармат удзелу партыі ў выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў пятага склікання. З'езд ужо тады канстатаваў, што належных умоў правядзення выбараў у першай фазе выбарчай кампаніі не было створаны. Па-першае, у вязніцах заставаліся зняволеныя па падставе іх палітычнай, грамадскай дзейнасці, шэраг палітыкаў знаходзіліся ў вымушанай эміграцыі альбо былі абмежаваныя ў правах. Па-другое, у выбарчым заканадаўстве адсутнічаюць гарантыі сумленнага, празрыстага і вартага даверу падліку галасоў, роўных умоў вядзення перадвыбарнай барацьбы для ўсіх палітычных суб'ектаў, а таксама не створаны рэальныя перашкоды фальсіфікацыям. Па-трэцяе, з самага пачатку шырока ўжываўся адміністрацыйны рэсурс на карысць кандыдатаў, падтрыманых органамі выканаўчай улады, а акруговыя выбарчыя камісіі былі сфарміраваны без рэальнага ўдзелу прадстаўнікоў дэмакратычнай апазіцыі. Далейшая хада выбарчай кампаніі толькі пацвердзіла раней пастаўлены "дыягназ": улады па-ранейшаму дзейнічаюць у рэжыме адсутнасці грамадскага кантролю за падлікам галасоў, абмежаванняў і рэпрэсій..."

На падставе ўсяго гэтага Партыя БНФ рэзюміруе: **выбарчая кампанія была несвабоднай, непразрыстай, яна не давала магчымасцяў кандыдатам на роўных канкураваць за галасы выбаршчыкаў і не адпавядала абавязацельствам Беларусі як краіны-ўдзельніцы АБСЕ, а створаныя без удзелу апазіцыі ўчастковыя камісіі не могуць лічыцца органамі, што сумленна падлічваюць галасы выбаршчыкаў...**

Дык ці мае сэнс удзельнічаць у выбарах, якія праводзяцца на такіх умовах? З гэтым пытаннем і было прапанавана вызначыцца дэлегатам партыйнага з'езда.

Тон дыскусіі задаў **Васіль Раманаў**, заявіўшы, што здымацца з выбарчай гонкі не варта. **Тамара Маскалёва**, наадварот, заклікала дэпутатаў падтрымаць папярэдняе партыйнае рашэнне, нагадаўшы, што пытанне з палітвязнямі ніяк не зрушылася з месца. А вось **Валер Каранкевіч** з Хоцімска заявіў, што будзе "ісці да канца на выбарах-2012", паколькі ён вылучаўся не толькі партыяй, але і шляхам збору подпісаў. У адказ прагучала прапанова выключыць Каранкевіча з партыі, калі ён не выканае партыйнага рашэння... Карацей, жарсці кіпелі.

**Алесь Страчук** падтрымаў прапанову сконцыць аб тым, што варта пакінуць некалькі партыйных кандыдатаў у балатэнях для галасавання. **Віталь Макаранка** прапанаваў прыняць нестандартнае рашэнне менавіта па Слоніме. Маўляў, там у кандыдата партыі, доктара **Івана Шэгі**, ёсць вялікая верагоднасць прайсці ў парламент, бо сама мясцовая ўлада просіць яго не здымаць сваю кандыдатуру, паколькі незадаволена сваім кандыдатам. Таму Віталь Макаранка прапанаваў зняць усіх кандыдатаў ад Партыі БНФ, а кандыдатуру Шэгі пакінуць.

Аднак кіраўнік Цэнтральнага выбарчага штаба Партыі БНФ **Алесь Каліта** нагадаў з'ездаўцам, што ў партыі павінна быць дысцыпліна. А паколькі ўсе кандыдаты запоўнілі анкеты і пагадзіліся здымацца, то нельга мяняць свайго рашэння. Намеснік старшыні Партыі БНФ Рыгор Кастусёў пры гэтым заўважыў: "Рашэнне павінна быць агульнае, пры ўсёй павазе да Алеся Страчука і Івана Шэгі..."

Галасаванне расставіла ўрэшце ўсе кропкі над "і": партыя здымае сваіх кандыдатаў з выбараў. Ці падпарадкуюцца партыйнай дысцыпліне ўсе кандыдаты, пакажа бліжэйшы час.

**Георгій ЧЫГІР.**

## ТЫМ ЧАСАМ

***Да апошняга заставалася інтрыга, ці здымуцца з выбараў прадстаўнікі Партыі БНФ, а вось вылучэнцы Аб'яднанай грамадзянскай партыі ад пачатку гаварылі, што і самі будуць байкатаваць выбары, і людзей заклічуць да байкоту. АГП стрымала слова. 17 верасня партыя афіцыйна абвясціла аб зняцці ўсіх сваіх кандыдатаў.***

***Такім чынам, "канкурэнцыя" за месцы ў Палаце прадстаўнікоў у цэлым па краіне стала, як ніколі, нізкай — менш за тры прэтэндэнты на мандат.***

# Увага! Патрабуюцца сведкі

*Сёння пачынаецца датэрміновае галасаванне па выбарах дэпутатаў Палаты прадстаўнікоў Нацыянальнага сходу Рэспублікі Беларусь. Нідзе ў свеце так не распаўсюджана датэрміновае галасаванне, як у нас. Назіральнікі лічаць, што пры беларускай сістэме кантролю з бюлетэнямі тых, хто галасаваў датэрмінова, можа адбыцца што заўгодна. Таму просяць на датэрміновае галасаванне не хадзіць.*

Удзельнікі кампаніі "За справядлівыя выбары-2012" зафіксавалі ўжо дзясяткі грубых парушэнняў. Пра гэта заявіў падчас прэс-канферэнцыі нацыянальны каардынатар назіральнікаў Сяргей Калякін. Ён зазначыў, што ўлады чыняць перашкоды патэнцыйным назіральнікам за выбарамі. Асабліва гэта тычыцца студэнтаў, якім пагражаюць адлічэннем, і грамадзян, якія маюць сталую працу. Па словах Сяргея Калякіна, нават на тых, хто не мае працы, ціснуць праз іх сваякоў. Тым не менш кампанія "За справядлівыя выбары-2012" абяцае выставіць больш за дзве тысячы назіральнікаў, якія будуць сачыць за тым, што адбываецца, амаль на тысячы выбарчых участкаў. Ад ідэі кругласутачнага "дзяжурства" гэтым разам вырашылі адмовіцца, бо практычна паказала, што знаходзіцца ноччу каля выбарчага ўчастка няма сэнсу: усё роўна не вядома, што адбываецца ўнутры будынка, дзе знаходзіцца выбарчая скрыня.

Сябры кампаніі спасылаюцца на папярэдні досвед і заяўляюць, што гарантыі захаванасці бюлетэняў тых, хто галасаваў датэрмінова, няма. Больш за тое, існуе рэальная магчымасць іх падмены. На думку Сяргея Калякіна (і тут ён, прама скажам, не адзіны), менавіта з гэтай прычыны ўлады так настойліва прапануюць (а часам і прымушаюць) грамадзянам прыходзіць на выбарчыя ўчасткі датэрмінова. Гэта тычыцца перш за ўсё студэнтаў, вайскоўцаў, міліцыянераў, супрацоўнікаў дзяржаўных устаноў і прадпрыемстваў. Сябры кампаніі нагадалі, што галасаваць у дзень выбараў ці не галасаваць наогул — канстытуцыйнае права кожнага грамадзяніна, а тых, хто прымушае людзей галасаваць датэрмінова, можна прыцягнуць да крымінальнай адказнасці.

Як супрацьстаяць ціску? Як даказаць, што яго ўжываюць? Куды звяртацца па дапамогу? Сяргей Калякін адказаў наступнае:

— *Не хадзіце галасаваць датэрмінова. Не паддавайцеся ціску. Ёсць магчымасць здымаць тых, хто на вас ціsне, на мабільны тэлефон і дасылаць гэта ў рэдакцыі СМІ ці на сайт кампаніі. Паколькі ціск на выбаршчыкаў з'яўляецца крымінальным злачынствам, то тыя, хто гэтым займаецца, вельмі баяцца галосласці.*

Сяргей Калякін прагназуе, што ў абласных цэнтрах актыўнасць выбаршчыкаў будзе значна меншая, чым у сельскай мясцовасці. Але назіральнікі не змогуць дакладна сказаць, колькі людзей прыйшлі на выбарчыя ўчасткі, бо ўдзел спісы тых, хто прагаласаваў, на тым ці іншым участку засакрэчаны. Так што праверыць праўдзівасць працэнт колькасці амаль немагчыма. Тым не менш кампанія "За справядлівыя выбары-2012" абяцае фіксаваць і правяраць усе заявы грамадзян. Іх можна дасылаць і па электроннай пошце: zsvby2012@gmail.com, і праз сайт www.vybary.com. Наведвальнікі сацыяльных сетак змогуць дасылаць свае назіранні праз **facebook.com/zaspravedlivye.vybory**, **ВКонтакте** і праз **Twitter**.

Акрамя таго, ва ўсіх абласных цэнтрах будуць працаваць "гарачыя лініі":

Мінск — 029-6546005,
Брэсцкая вобласць — 6520042,
Віцебская вобласць — 3217679,
Гомельская вобласць — 6548656,
Гродзенская вобласць — 6669441,
Мінская вобласць — 6616176,
Магілёўская вобласць — 6043457.

Кампанія "За справядлівыя выбары-2012" адбываецца пад лозунгам: "Кантроль над выбарамі — кантроль над уладай". Таму яе сябры разлічваюць на дапамогу ўсяго грамадства.

**Любоў ЛУНЁВА.**

В НОМЕР!

# Сколько стоит самолет?

*Для национальной авиакомпании "Белавиа" изготовили специальный самолет. По признанию иностранного партнера белорусского перевозчика, стоит новый борт "очень-очень-очень дорого"...*

## Самолет-середнячок

Новый Embraer 175 стал 19-м самолетом "Белавиа". Его изготовили специально по заказу национальной авиакомпании в Сан-Паулу, откуда воздушное судно добиралось своим ходом. Новая машина, уже раскрашенная в цвета родной авиакомпании, под аплодисменты приземлилась вчера в Национальном аэропорту "Минск".

Пока новый Embraer одинок — второй самолет прибудет в Беларусь только в октябре. Новые борта должны занять пустующую нишу в арсенале "Белавиа" — Embraer меньше "Боинга 737", но больше маленького CRJ-100/200.

Стоит отметить, что летать Embraer будет на относительно близкие расстояния. Скорее всего для постоянных рейсов выберут бизнес-маршруты: Баку, Москва, Лондон, Париж, Прага и так далее.

*"Первый полет должен состояться на днях*, — сообщил "Народной Воле" генеральный директор РУП "Национальная авиакомпания "Белавиа" **Анатолий Гусаров**. — *Скорее всего самолет отправится в Берлин. Пока мы не можем сказать точно, ведь мы еще не договорились о полетах этого судна с аэропортами Германии".*



## Небесный тихоход

Пассажиры Embraer наверняка оценят новую машину. Все посадочные места оборудованы по последнему слову плюс повышенная комфортность. Хотя на первый взгляд самолет мало отличается от своих собратьев: стройные ряды кресел, места для багажа, уборная. Но стоит только присесть в новенькое кресло, как становится ясно — тут можно задержаться и подольше. Все сиденья обиты натуральной кожей, много места для ног, да и раскладывается кресло довольно удобно. Специалисты "Белавиа" гордятся новым Embraer — все-таки всю внутреннюю комплектацию продумывали они.

Новый самолет на 76 мест внешне кажется элегантным и легким, внутри — образчик того, каким должен быть салон "бизнес-класса". Но ценен Embraer не только этим. Главные достоинства этого самолета в его экономичности. Для Беларуси вопрос экономии энергоресурсов актуален не меньше, чем для европейских стран, и если уж для населения вводят лимиты на потребление, то и технику стоит покупать с расчетом. Embraer славится именно своим низким потреблением топлива. Кроме этого, в его салоне всегда малый уровень шума.

Несмотря на то что недавно "Белавиа" пережила серьезный кризис, в планах компании серьезные позитивные изменения. Господин Гусаров заявил, что в ближайшие несколько лет возможна покупка еще нескольких самолетов Embraer. Пять-шесть новых бортов станут существенной "прибавкой" к активам перевозчика. Сейчас флот "Белавиа" состоит из шести "Боингов 737-500", пяти "Боингов 737-300", четырех CRJ-100/200, пока одного Embraer-175 и трех Ту-154М. Вместе с новыми машинами появится и возможность открывать дополнительные маршруты.

Пока же аэропорт "Минск" приветствовал новичка. Embraer под аплодисменты окатили водой из брандспойтов пожарных машин (точно так же о борт нового корабля разбивают бутылку шампанского — на удачу).

Сколько же стоит новое "счастье" национальной авиакомпании? На этот вопрос прямого ответа журналисты так и не получили. Вице-президент коммерческого подразделения Embraer в Европе **Саймон Ньют** шутя заметил: *"Очень-очень-очень дорого".*

Известно, что новый бразильский борт по договоренности с производителем обошелся ***дешевле стандартных 30 миллионов долларов***. Оба белорусских Embraer взяты в лизинг. При этом Анатолий Гусаров заметил, что в дальнейшем "Белавиа" будет расширять свой парк и за счет новых бортов, и за счет самолетов со вторичного рынка.

**Мария МАЛЕВИЧ.**



СПЕЦЫЯЛЬНЫ РЭПАРТАЖ

# Яблычны акалот...

*На Случчыне — спрадвеку яблычна-грушавым краі — небывалы ўраджай садавіны, як, дарэчы, і паўсюль на Міншчыне. Па меркаванні спецыялістаў-нарыхтоўшчыкаў, сёлетні ўраджай яблыкаў — у шэсць разоў большы, чым летась. Натуральна, райспажыўтаварыствы пачалі прымаць акалот у насельніцтва (яблыкі розных гатункаў, абтрэсеныя, знятыя з яблынь і падалкі). Але людзі не спяшаюцца здаваць прадукцыю нарыхтоўшчыкам. У чым загваздка?..*



Едучы ў Слуцк, меўся пра тое выведаць — тэма ж здавён блізкая... Памятаю, як у 1973 годзе мае аднавяскоўцы запарыліся з "акалотам", бо на кожным падворку горы яблыкаў, а транспарту ніякага... І тады мяне, студэнта-журфакаўца, выправілі ў райкам партыі, каб зрушыць праблему. Неверагодна, але да "шкаляра" прыслухаліся: праз два дні ў нашы Квасынічы прыехалі нарыхтоўшчыкі (ажно з Пінска!) на дзвюх вялікагрузных фурах. І вытралявалі ўсё пад чыстую, пакінуўшы людзям добрую капейчыну. З тае пары і Случ перасохла, і сады не тыя, што раней: састарэлыя калгасныя (як у нашай вёсцы) выкарчавалі, а многія папросту здзічэлі, усохлі і ніякай ад іх радасці. Цяперашнія "губернскія" ўлады як быццам павярнуліся тварам да садаводства, ёсць нават дзяржпраграма па развіцці галіны і ўсяго, што з ёю ў звязку, — перапрацоўкі, будаўніцтва сучасных сховішчаў, развіцця лагістычных цэнтраў і ўсяго астатняга. Але ж калі тая праграма будзе даведзена да лагічнага завяршэння? Мусіць, калі апошні рак у Случы свісне... Раней, да слова, наша Случ была сапраўднаю ракою, а цяпер... Язык не павернецца назваць усохлы ручаёк рэчкаю. Як асушылі балоцістыя прылескі ў вярхоўі (цяпер там саўгас "Слуцкі"), то Случ, можна сказаць, дала дуба. І, канечне, ракі, якіх уласнаручна лавіў сотнямі проста з моста ў Кіраве (былая вёска Караўцы), некуды пазнікалі.

## Слуцкая бэра

Нешта падобнае атрымалася і з садамі. Не сказаць, каб вырадзіліся ўшчэнт, але "няма таго, што раньш было"... Там-сям з'яўляюцца новыя яблыневыя і грушавыя пасадкі, разлічаныя на "таварнасць", але іх няшмат. Таму аснову ўраджайнасці, як у цяперашні яблычны год, складаюць плады старых садоў. Іх на Случчыне, асабліва на прыватных гаспадарках, яшчэ хапае, дармо што вёска пусцее, старэе і вымірае. Пакуль жыве гаспадар — жыве і ягоны сад... Можа, калі і вернецца былая слава слуцкіх пуцінак, пепінаў і антонавак, а дасць Бог ды парупяцца самахвалавіцкія навукоўцы, то адродзіцца і славутая Слуцкая бэра — груша, вядомасць якой грымела па ўсёй Еўропе і нават за марамі-акіянамі. Быў час, калі слуцакі ганарыліся бэраю не менш, чым слуцкімі паясамі, апетымі Максімам-кніжнікам. Цікава, што пік папулярнасці бэры прыпаў на другую палову XIX — пачатак XX стагоддзя, калі Случчына грымела як адзін з буйнейшых цэнтраў прамысловага садаводства. Канечне, у шматлікіх садах вырошчваліся самыя розныя гатункі яблыкаў, груш, сліў і вішань, але бэра займала асобнае месца. Чаму? З-за сваёй незвычайна смачнай крэмавай мякаці — сакавітай, салодкай, пахучай, без камяністых клетак. Да таго ж плады доўга захоўваліся, не губляючы таварнага выгляду. Самае дзіўнае, што грушы сыпаліся з дрэва даволі рана, але былі цвёрдыя, таму іх часцяком варылі — атрымлівалася незвычайнае смакоцце, сапраўдны ласунак для дзяцей. Не дзіва, што (архіўныя запісы сведчаць) шматлікія конныя падводы, даверху напоўненыя духмянымі грушамі, цугам шнураваліся ад Слуцка да Мінска. А ўжо адтуль славутыя бэры траплялі ў Санкт-Пецярбург і Маскву, нават у Амерыку. Словам, бэра была залатым брэндам Случчыны. Вядома, што менавіта Слуцкая бэра жыве і пладаносіць да 80—100 гадоў, але во дзіва (!) — грушавых дрэў амаль не засталося. Дзе-нідзе хіба ў вяскоўцаў, і ў Слуцку там-сям трапляецца, але толькі зрэдзь. Раней вакол старога Дома культуры было іх шмат, але цяпер не засталося і пнёў — скарчавалі. Ды і перапрышчэпленыя па колькі разоў атожылкі іх павырасталі ў зусім іншыя дрэвы, плады якіх толькі аддалена нагадваюць тыя бэры, ад якіх млелі айчынныя і забугорныя паны і паненкі, не кажучы пра мясцовую галоту. У сапраўднай бэры ствол высозны, камель вузлаваты, а крона як разлапістая шапка — такое дрэва не зблытаеш ні з якім іншым. Цяпер у пашане іншыя яблыні і грушы — карлікавыя. Каб, значыцца, і рукою дацягнуцца, і каб на кожнай галіне — пладоў болей, чым лісця. Усё як быццам правільна і лагічна, бо свет не стаіць на месцы, а робіцца прагматычным — як на яго ні дзівіся...



## Хай лепш згніюць, чым за такую цану...




Але вернемся да яблыкаў. Едучы ў Слуцк, не мінеш Шышчыц — вялікай вёскі ўзбоч шашы. Тут, пад шатамі дрэў, з латкоў і проста з долу прадаюць вяскоўцы ўсё, што з двара: мёд, яйкі, цыбулю, часнок... Але болей за ўсё яблыкаў — на любы густ. Падыходжу, пачынаю прыцэньвацца. Пяцілітровае вядзерца пуцінак — 25 тысяч; антонаўка звычайная — 35 тысяч за пяць кіло... Ёсць і каштэля, і малінаўка, і пепін-шафран, і штрыфель... Пакупнікоў, калі не лічыць мяне, практычна няма. Натуральна, кожны нахвальвае свой тавар...

— А чаму б не прадаць райспажыўтаварыству? — пытаюся ў мужчыны. — Тут жа не гандаль, а сабе даражэй...

— От разумнік! — папярод усіх выступіла байчэйшая з усіх прадаўцоў. — Такія яблыкі — ды па 300 рублёў?! То хай лепш згніюць, чым за такую цану!..

Мужчына, скеміўшы, што ніякі я не пакупнік, "стрэліў" для пачатку цыгарэту, а пасля, адвёўшы ўбок, растлумачыў:

— У тым магазіне насупраць, — хітнуў галавой у бок прыдарожнай крамы, — прымаюць і апад, і ўсё, што прывязеш... Спачатку нібыта бралі па 450 рублёў, затым па 400, а цяпер па 300 за кіло... Ну які дурань на такое пакваліцца? Ды зайдзі сам, спытай...

Канечне, рушыў у тую краму №47, зноў-такі "зрабіўшыся" гаспадаром, якому няма куды падзець яблычны ўраджай.

— Так, — пацвердзіла прадаўшчыца **Галіна Кульбіцкая**, — прымаем яблыкі. У нас і аб'яўка на дзвярах — па 300 рублёў за кілаграм. А колькі ў вас набярэцца?

— Можа, тона ці трохі болей, — адказваю.

З размовы высветлілася, што нарыхтоўкай яблыкаў займаецца райспажыўтаварыства. Заключана адпаведная дамоўленасць з Шышчыцкім магазінам, з іншымі вясковымі крамамі. Усё, што патрабуецца ад здатчыка, — даведка з сельскага Савета, што ты маеш прысядзібны ўчастак. Далей проста: прывозіш яблыкі ў краму, іх бяруць на вагу, выплачваюць грошы і ўжо транспартам райспажыўсаюза вязуць на перапрацоўку.

— Праўда, — папярэджвае спадарыня Галіна, — трэба з намі дамаўляцца зараней, каб мы ўзгаднілі з нарыхтоўшчыкам, калі той прышле машыну... Мы ж толькі перавалачны пункт...

— Мусіць, не багата здатчыкаў, калі такая цана? — пытаюся напаследак у прадаўшчыцы.

— Так, не багата, але патроху збываюць людзі, бо хоць якія грошы. Іншыя чакаюць, спадзяюцца, што цана падвысіцца...

У Заполлі і Ленькаах — не прамінуў крамы і гэтых вёсак — карціна роўна гэткая ж, як і ў Шышчыцах: здатчыкаў небагата, затое ўзбоч шасейкі людзі з садавінай.

## «Пахавальнае бюро ўсяго перадавога»

Слуцкае раённае спажывецкае таварыства знаходзіцца на вуліцы Леніна, лічы, пад бокам у кансервавага завода. Якраз на кансервавым (раней называўся "сокавы") і перарабляюць яблыкі на сокі і джэмы. Пару гадоў таму наведаўся на гэтае прадпрыемства, там якраз рыхтаваліся да ўстаноўкі новых, больш сучасных ліній, нават мелі намер перанесці сам завод за межы горада. А як цяпер? Але спачатку кірую проста ў райспажыўтаварыства, усё ж цікава, колькі нарыхтавалі тых яблыкаў. І ўвогуле, якія планы ў нарыхтоўшчыкаў, ці маюць намер падвысіць закупачныя цэны на садавіну?

— *На сённяшні дзень* (а было 12 верасня) *нарыхтавана і адпраўлена на перапрацоўку 400 тон яблыкаў,* — паведаміў у размове загадчык аддзела па нарыхтоўках і знешнеэканамічных сувязях **Вадзім Чачуха.** — *Задзейнічана чатыры аўтамабілі і тры нарыхтоўшчыкі. Працуем па заяўках магазінаў, а як затаварваем машыны, то адпраўляем у Рачкавічы і Старыя Дарогі — на вінаробчыя заводы. Раней адпраўлялі яшчэ і ва Ўручча...*

— Але ж Слуцкі кансервавы — за якія дзвесце крокаў, — не хаваю здзіўлення. — Выдаткі меншыя... Чаму выбралі Старыя Дарогі?..

— *Слуцкі кансервавы*, — тлумачыць сітуацыю намеснік выконваючага абавязкі старшыні райспажыўтаварыства **Андрэй Касяк**, — *заняты вытворчасцю гарошка. І ўвогуле, там розныя паратурбацыі, звязаныя з рэканструкцыяй і ўсім астатнім. Ёсць складанасці, там нават дырэктара памянялі. Карацей кажучы, працуем з іншымі. А яблыкаў сёлета ўрадзіла, як ніколі, — у шэсць разоў болей, чым летась.*

На тым размова і скончылася, бо ў кабінет зайшоў выконваючы абавязкі старшыні райспажыўтаварыства спадар **Кузьменка** і рашуча замовіў: ніякай інфармацыі болей, усё, што тычыцца дзейнасці таварыства, — камерцыйная тайна... Сваіх падначаленых літаральна выправіў з кабінета. Вось такі паварот, такі нораў... А можа, проста бракуе чалавеку цывілізаванасці, элементарнага ўмення працаваць з прадстаўнікамі СМІ? Халера яго ведае... Пакідаючы "рэзідэнцыю" нарыхтоўшчыкаў, чамусьці ўспомніў словы аднаго блогера, прачытаныя перад паездкай у Слуцк: "Белкаапаюз — гэта пахавальнае бюро ўсяго перадавога. Дадзеную структуру даўно варта разагнаць і стварыць самім фермерам нармальную структуру — без усялякіх чыноўнікаў".

Ну як тут не пагадзіцца?!.

**Георгій ЧЫГІР.**
**Фота аўтара.**
*Мінск—Слуцк.*

ЧУЛІ?

## *Экспарт спынены*

Беларусь на пачатку жніўня цалкам спыніла экспарт са сваёй тэрыторыі растваральнікаў, але мае намер працягнуць перамовы з Расіяй аб умовах магчымага аднаўлення экспарту гэтых нафтахімічных тавараў.

*"Прэзідэнтам было сказана: калі гэта (экспарт растваральнікаў) выклікае трывогу ў нашых расійскіх партнёраў — спыніце пастаўкі. І мы гэта зрабілі, 4 жніўня з тэрыторыі Беларусі сышоў апошні вагон з растваральнікамі",* — паведаміў журналістам прэм'ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч.

Паводле яго слоў, гэтае пытанне вырашалася на вышэйшым узроўні дзвюх краін. "У час візіту Дзмітрыя Мядзведзева на ўзроўні прэзідэнта было рашэнне, і я таксама далажыў прэзідэнту", — сказаў прэм'ер-міністр.

Нагадаем, што кіраўніцтва Расіі падазравала, што ўлады Беларусі перапрадаюць расійскія нафтапрадукты ў краіны ЕС пад выглядам растваральнікаў, ухіляючыся такім чынам ад выплаты ў бюджэт РФ мытнай пошліны. Для расследавання гэтай справы была створана спецыяльная камісія, па выніках працы якой расійскія ўлады прынялі рашэнне падняць пошліну на экспарт растваральнікаў да ўзроўню экспартных пошлін на бензін.

## *Колькі дзіця павінна вучыцца*

*"У нас існуюць нарматывы, якія рэгламентуюць час, якое дзіця затрачвае на вучобу*, — патлумачыла вядучы навуковы супрацоўнік лабараторыі праблем здароўя дзяцей і падлеткаў РНПЦ "Маці і дзіця" **Ірына Мітрашэнка**. — *Так, вучань першага класа пры пяцідзённым рабочым тыдні павінен знаходзіцца ў школе не больш за 21 гадзіну, а старшакласнік — не больш за 32 гадзіны ў тыдзень".*

Першакласнікам ліцэяў і гімназій рэкамендавана затрачваць на школьнае навучанне не больш за 22 гадзіны, вучням класаў з вывучэннем спецыяльных прадметаў — не больш за 23 гадзіны, для адзінаццацікласнікаў гэтая норма складае 35 і 38 гадзін адпаведна.

Акрамя таго, існуюць нарматывы, якія рэгламентуюць час на выкананне хатніх заданняў. Так, першакласнікі і другакласнікі павінны паспяваць спраўляцца з заданнем за гадзіну, для вучняў трэціх і чацвёртых класаў гэты час павялічваецца да 1,5 гадзіны, навучэнцы сярэдніх класаў павінны затрачваць на выкананне хатніх заданняў 2—2,5 гадзіны, старэйшых класаў — 3—3,5 гадзіны.

## *Справакаваў аварыю і... з'еў пратакол*

Пра кур'ёзны выпадак паведаміла прэс-служба ДАІ Гродзенскай вобласці.

У Гродне 22-гадовы кіроўца "Мерседэса" праехаў на чырвоны сігнал святлафора і дапусціў сутыкненне з "Фольксвагенам". Інспектары склалі схему ДТЗ і запрасілі кіроўцаў для далейшага разгляду ў будынак ДАІ. Пасля афармлення пратаколу апытання парушальнік прачытаў дакумент. Даведаўшыся, што яго прызнаюць вінаватым у ДТЗ, мужчына абурыўся, схапіў пратакол са стала, скамячыў, запхнуў паперу ў рот і стаў яго жаваць.

СТОП-КРАН

# Когда акционеры «Луча» смогут продать свои акции?

*Акционеры Минского обувного открытого акционерного общества "Луч" — управляющая компания холдинга "Обувь — "Луч" — в течение 13 лет ждали снятия со своих акций "моратория", введенного декретом президента...*

Оказалось, что, когда время действия соответствующего декрета истекло и акции всех акционерных обществ страны получили право свободного обращения на рынке ценных бумаг, на акции МО ОАО "Луч" это фактически не распространилось.

— 29 ноября 2011 года акции общества были заблокированы Департаментом по ценным бумагам Министерства финансов (ДЦБ), — рассказывает один из акционеров Степан БУЮКЛЫ. — При этом никто не проинформировал акционеров о причинах наложения нового "моратория" на акции. Известно только, что заблокированы ценные бумаги общества были по требованию Комитета государственного контроля. Естественно было предположить, что по результатам камеральных проверок республиканским органом государственного управления, осуществляющим государственное регулирование рынка ценных бумаг, были выявлены нарушения при совершении сделок с ценными бумагами акционерного общества. Но акционерное общество не получало предписания о допущенных им нарушениях от ДЦБ. Директору Департамента по ценным бумагам хотелось бы порекомендовать ознакомиться с решением Конституционного суда Республики Беларусь от 06.07.2010 г. № Р-483/2010 "О соответствии Конституции Республики Беларусь Закона Республики Беларусь "О внесении изменений и дополнений в Закон Республики Беларусь "О хозяйственных обществах" в той его части, где указывается, что, "согласно статье 44 Конституции, государство гарантирует каждому право собственности и содействует ее приобретению (часть первая); собственник имеет право владеть, пользоваться и распоряжаться имуществом как единолично, так и совместно с другими лицами, а также неприкосновенность собственности, право ее наследования охраняются законом (часть вторая). Указанные права могут быть ограничены законом только в интересах национальной безопасности, общественного порядка, защиты нравственности, здоровья населения, прав и свобод других лиц (статья 23 Конституции)".

По словам собеседника, очень сложно себе представить, что возможность акционеров МО ОАО "Луч" с интересом для себя реализовать ценные бумаги, принадлежащие им на праве собственности, противоречат интересам национальной безопасности страны, грозят общественному порядку и защите нравственности, наносят вред здоровью населения и затрагивают права и свободы других лиц.

— Понятно, что столь пристальный интерес к нашим акциям, возможно, связан с расположением предприятия в самом центре Минска, — продолжает он. — Здесь имеются интересы как самого города, так и других государственных структур. В частности, сообщал о своем намерении приобрести 25 процентов акций МО ОАО "Луч" концерн "Беллегпром". И если такой интерес действительно есть, то что мешает решить его в правовом поле? Мингорисполком до сентября 2011 года обладал преимущественным правом приобретения акций у акционеров МО ОАО "Луч", однако тогда отказался от покупки их ценных бумаг. Если оценка ситуации руководством города изменилась, то Мингорисполком имеет возможность получить такое право снова. Но это решение не принято, а значит, акции общества должны находиться в свободном обращении. Что касается интереса концерна "Беллегпром" к акциям общества, в свое время эта тема обсуждалась органами управления акционерного общества, в результате чего стороны пришли к выводу, что в связи с увеличением номинальной стоимости акций МО ОАО "Луч" концерну такой пакет акций "не по карману". Кроме того, в отличие от Мингорисполкома концерн не может быть наделен преимущественным правом приобретения акций непосредственно у акционеров. Он может приобрести их только через само акционерное общество, но в силу особых требований Закона РБ "О хозяйственных обществах" к принятию акционерным обществом решения о приобретении акций собственного выпуска у акционеров с последующей передачей этих акций инвестору (в данном случае концерну "Беллегпром") для реализации такой идеи требуется значительный период времени.

Степан Буюклы говорит, что на днях стало достоверно известно, что Комитетом государственного контроля отозвано его требование о блокировании акций общества. А значит, теперь не существует законных оснований для блокирования ценных бумаг МО ОАО "Луч". В таком случае ДЦБ обязан принять решение о разблокировании акций МО ОАО "Луч".

— В конце прошлой недели на имя директора Департамента по ценным бумагам было подано заявление с требованием разблокировать ценные бумаги, — рассказывает акционер. — Хотелось бы услышать позицию этого ведомства. Кроме того, генеральному директору общества группой акционеров предложено инициировать в наблюдательном совете созыв внеочередного общего собрания акционеров МО ОАО "Луч" с вопросом повестки дня, связанным с разблокированием акций общества. Там прекрасно понимают тот уровень "негатива", который создала в среде акционеров МО ОАО "Луч" беспрецедентная по своей продолжительности "блокировка" акций общества.

**Алесь СВЕТЛАНІЧ.**

І ТАКОЕ БЫВАЕ

## *На Брэстчыне загінула 25 тысяч карасёў. Вінаваты... самі карасі*

*Не так даўно стала вядома, што ў сажалцы каля вёскі Міньковічы Камянецкага раёна загінулі каля 25 тысяч карасёў. Пасля гэтага Брэсцкая міжраённая інспекцыя па ахове жывёльнага і расліннага свету правяла разбіральніцтва па справе...*

Аб здарэнні паведамілі мясцовыя жыхары, а намеснік начальніка інспекцыі **Дзмітрый МУРЫН** адразу ж пракаментаваў гэты выпадак журналістам.

— Літаральна ў 400 метрах ад сажалкі на гары ляжала вялікая куча гною, — распавёў ён.— Хутчэй за ўсё арганіку сюды складвалі работнікі жывёлагадоўчых комплексаў ААТ "Белавежскі". Сажалка знаходзіцца на іх тэрыторыі. Пакуль было суха, праблем не ўзнікала. Але прайшлі дажджы, і гной пачало змываць у ваду. Вось рыба і ўсплыла. Мы налічылі 25 тысяч 340 карасёў. Крыху рыба яшчэ плавае, але наўрад ці ў яе ёсць шанц выжыць у атручанай вадзе... Па выніках разбіральніцтва будзе вызначана мера пакарання прадпрыемству.

Па папярэдніх ацэнках, урон прыродзе склаў каля паўмільярда рублёў. Але, як паказала расследаванне чыноўнікаў, вінаватымі ў гэтай справе аказаліся... самі карасі.

— Устаноўлена, што вадаём, які знаходзіцца на тэрыторыі ААТ "Белавежскі", у свой час па праекце быў пабудаваны для разбаўлення і збору стокаў жывёлагадоўчага комплексу, — расказвае "Народнай Волі" Дзмітрый Мурын зараз. — Рыбаводства на гэтай сажалцы не прадугледжвалася. А значыцца, усе прэтэнзіі да ААТ "Белавежскі" зняліся самі па сабе, правілы рыбалоўства не парушаны.

**— Высветлілі, ад чаго загінула рыба?**

— Арганіка патрапіла ў ваду, але ж вадаём для гэтага і прызначаецца. Гэта прадугледжана тэхналогіяй. Паўтаруся, рыбы тут не павінна быць у прынцыпе, карасі самі развяліся. Дарэчы, рыбу, якая загінула, ААТ "Белавежскі" сабраў і накіраваў ва ўціль.

**— Але ж раней такіх выпадкаў не было...**

— Бо не было, напэўна, і рыбы. Да таго ж у вадаём некалькі гадоў нічога не скідвалі.

**— Атрымліваецца, што вінаваты самі карасі, якія развяліся. А як жа ўрон прыродзе ў паўмільярда рублёў, аб чым заяўлялася раней?**



— У любым выпадку прыродзе трэба кампенсаваць урон, але ж было ўстаноўлена, што гэта не рыбалоўны вадаём, таму прадпрыемству ніякія сумы выстаўляцца не будуць.

**— Можа, варта нешта прыдумаць на будучыню?**

— На будучае ў ААТ "Белавежскі" абяцалі ля сажалкі паставіць таблічку: "Тэхнічны вадаём. Лоўля рыбы забаронена".

**Аляксандр НІКАНОРАЎ.**

СІТУАЦЫЯ

# Здзекі на мяжы

## *Замежныя дабрачынныя фонды могуць адмовіцца дапамагаць Беларусі*

Сітуацыя, якая склалася на беларускай мяжы, вымушае прадстаўнікоў замежных фондаў перагледзець сваю дзейнасць на тэрыторыі Беларусі. Канвоі з гуманітарнымі грузамі беларускія мытнікі трымаюць па 15 гадзін і болей. Грамадзяне Англіі **Марсія і Майкл Дойл** больш за 20 гадоў аказваюць дапамогу беларускім дзецям. За гэты час на аздараўленне ва Уэльс было вывезена больш за тысячу чалавек. Сотні дзяцей у інтэрнатах атрымалі дэфіцытныя лекі, харчаванне, адзенне, цацкі, школьныя прылады і гэтак далей. Але сёння неабыякавыя людзі, якія ўсю гэту дапамогу арганізоўвалі, у разгубленасці.

Спадарыня Марсія Дойл распавяла "Народнай Волі", як тры дні таму канвой з Уэльса перасякаў беларускую мяжу:

*— Мы прастаялі на мяжы больш за 15 гадзін. Мы людзі сталага веку, маем праблемы са здароўем, і нам, натуральна, было цяжка гэта вытрымаць. Мытнікі дэтальна праглядалі ўсё, вывучалі пералік рэчаў гуманітарнай дапамогі. Нас папрасілі падрабязна распісаць кожны пункт. Напрыклад, калі яны прачыталі "мыйныя сродкі", то папрасілі падрабязна напісаць, колькі грамаў мыла ўвозіцца, колькі шампуню, колькі пральнага парашку... Яны былі ветлівыя і добразычлівыя, але нам ад гэтага не было лягчэй. Час ішоў, а мы ўсё пісалі, удакладнялі, адказвалі на пытанні, узгаднялі розныя фармальнасці. Такога раней ніколі не было. Увогуле, апошнім часам стала нашмат складаней аказваць дапамогу беларускім дзецям. А яна ж ім патрэбна, яны за яе ўдзячныя. Паглядзіце, якую прыгожую карціну зрабіў адзін хлопчык. Ён інвалід, быў у нас на аздараўленні, яму зрабілі аперацыю, і вось якую прыгажосць ён цяпер зрабіў сваімі рукамі. Дзеля гэтага, канешне, можна цярпець, але чаму такія перашкоды?*

Ірландзец **Лім О'Мара** таксама доўгі час займаецца дабрачыннай дзейнасцю ў Беларусі. Ён таксама зазначае, што праблем становіцца ўсё больш.

*— Вялікія праблемы цяпер у нашых валанцёраў. Справа — у візах. Нашы валанцёры могуць знаходзіцца ў Беларусі пяць дзён. Яны амаль не спяць, каб паспець зрабіць рамонт, паставіць сантэхніку, нейкае абсталяванне і не парушыць ваша візавае заканадаўства. Акрамя таго, пачалі ўзнікаць праблемы і з выездам дзяцей да нас, у Ірландыю. Таму цяпер ладзім адпачынак дзяцей на канікулах тут, у Беларусі. Вось нядаўна прывозілі дзяцей з інтэрната ў Мінск, вадзілі іх у Батанічны сад, у тэатр, у музей. Дзеці папрасіліся ў "Макдональдс", бо ніколі ж там не былі. Ім так спадабалася, што некаторыя нават плакалі, не хацелі ехаць у інтэрнат.*

**— Чаму такія перашкоды? Можа, з цягам часу сітуацыя ў інтэрнатах настолькі палепшылася, што ўжо не так актуальна стала замежная дапамога?**

*— Ды што вы? Наадварот, цяпер колькасць беларускіх інтэрнатаў нават павялічылася (магчыма, гэта звязана з крызісам). Бракуе самых элементарных рэчаў. Просяць і адзенне, і харчаванне... Мы дапамагаем не толькі дзецям, але і дарослым у інтэрнатах. Але гэтыя перашкоды на мяжы... З чым яны звязаны? Спадзяёмся, зразумела, што гэтыя фармальнасці — і на мяжы, і з візамі — неяк упарадкуюць, бо ўсе ж у гэтым зацікаўлены. Гэта ж відавочна.*

**Марыя Міцкевіч**, старшыня дзіцячага фонду "Сакавік", папярэджвае, што калі сітуацыя на мяжы не зменіцца, то замежныя партнёры могуць проста спыніць дапамогу Беларусі.

*— Тое, што цяпер адбываецца на нашай мяжы, інакш як здзекам з людзей, якія столькі робяць для нашых дзяцей, не назавеш. Амаль усе ўжо адмовіліся вазіць сюды лекі, бо столькі трэба выканаць розных фармальнасцяў, што людзі папросту не хочуць марнаваць час і псаваць свае нервы. Цяпер яны вязуць тое, чаго катастрафічна не хапае— пратэзы, мыйныя сродкі, памперсы... У нас жа ўсё гэта вельмі дорага каштуе. Але што іх чакае на мяжы? Праехалі праз усю Еўропу, стаміліся, а тут трэба яшчэ амаль суткі не спаць з-за нейкіх незразумелых інструкцый. Напрыклад, Марсія і Майкл у размове са мной сказалі, што схіляюцца да думкі спыніць пакуль паездкі ў Беларусь. Яны людзі сталага веку, і такія выпрабаванні ім ужо не па сілах.*

Як кажуць, сітуацыя не патрабуе каментарыяў — адно абурэнне. Беларуская дзяржава не толькі сама не ў стане забяспечыць абяздоленых людзей усім неабходным, але і чыніць перашкоды тым, хто стараецца дапамагчы беларусам, якія апынуліся ў цяжкім стане.

**Любоў ЛУНЁВА.**

ГУЧНАЯ СПРАВА

*25 верасня спаўняецца 50 гадоў праваабаронцу Алесю Бяляцкаму. Больш за год ён утрымліваецца за кратамі. Сёння мы пачынаем друкаваць кнігу “Справа Бяляцкага”, якую напісаў журналіст Радыё Свабода Валер Калiноўскi.*

*Гэтая кніга не столькі пра крымінальную справу № 11081100188, паводле якой Алесь Бяляцкі быў асуджаны на 4,5 года турмы, колькі пра справу ягонага жыцця — абарону грамадзянскіх і культурных правоў чалавека.*

# Клетка



## Уступ

У маі 2006 года славацкая газета “Sme” надрукавала малюнак вядомага карыкатурыста Марціна Шутаўца: Аляксандр Лукашэнка адной рукой трымае клетку для птушак, унутры якой — абрыс Беларусі, а другой пасыпае зернейкі. Подпіс: “Так ён корміць краіну”.

Карыкатура мела вялікі поспех, яе заўважылі і передрукавалі шмат якія СМІ.

Праз 5 гадоў, 9 кастрычніка 2011 года, беларускі праваабаронца Алесь Бяляцкі, адказваючы на віншаванне з нагоды дня нараджэння, які ён сустрэў у мінскім следчым ізалятары №1, у лісце гомельскаму актывісту **Васілю Палякову** напісаў:

*“Я таксама перакананы, што праўда возьме верх. У мяне ўсё добра. Зараз акурат знаходжуся там, дзе і павінен быць праваабаронца пры такой сітуацыі ў краіне. Як пісаў Ул. Караткевіч у „Хрысце...“, якога зараз перачытваю, — уся Беларусь — гэта клетка. І па той бок мура, па ўсім відаць, не нашмат лепей. А тут пабываўшы, пачынаеш болей цаніць жыццё”.*

Герой рамана Уладзіміра Караткевіча “Хрыстос прызямліўся ў Гародні” Фларыян Басяцкі прамаўляе крылатую фразу:

“Увесь свет — клетка. А ўжо такой клеткі, як княства Беларуска-Літоўскае, — пашукаць, дык не знойдзеш...”

Дзеянне рамана адбываецца ў XVI стагоддзі, калі Беларусь была часткай Вялікага Княства Літоўскага. У XX стагоддзі яна апынулася ў складзе СССР — агульнай клеткі, што займала ўжо шостую частку сушы. У 1991-м “імперыя зла” развалілася, і птушкі выпырхнулі на волю. Але пачынаючы з 1994-га, з абрання першага прэзідэнта, у Беларусі будуюць сваю асобную клетку.

Алесь Бяляцкі ўсё жыццё разгойдвае пруты клетак, у якія трапляла яго краіна, пачынаючы з савецкіх часоў. У яго за плячыма — першыя нефармальныя суполкі, першыя нелегальныя выданні, першыя мітынгі і шэсці — усё тое, з чаго пачаўся рух Беларусі да свабоды і разбурэння савецкай клеткі.

Але клеткі існуюць найперш у свядомасці, і таму на месцы разбураных паўстаюць новыя. Уздзейнічаць на свядомасць людзей можна праз культуру (Бяляцкі піша кнігі і стварае музеі), праз веру (Бяляцкі ўваходзіць у каталіцкую грамаду і выдае рэлігійны часопіс), праз будаванне грамадзянскай супольнасці (Бяляцкі арганізуе па ўсёй Беларусі праваабарончы рух).

Дыктатура жорстка распраўляецца з усім, што яе разбурае. У выніку Бяляцкі апынаецца ў клетцы, але ўжо не метафізічнай, а самай што ні ёсць рэальнай.

* * *

2 лістапада 2011 года Бяляцкі трапіў у судовую клетку ў зале пасяджэнняў на першым паверсе будынка суда Маскоўскага раёна Мінска. Яго абвінавацілі ў нявыплаце падаткаў з грошай, якія ён збіраў за мяжой для дапамогі беларускім палітвязням і для праваабарончай дзейнасці. Высвятляючы ягоную асобу паводле судовага трафарэта (прозвішча, імя, дзе нарадзіўся, ці меў судзімасці...), суддзя не згадаў ні пра ранейшыя здабыткі Бяляцкага для Беларусі, калі Алесь быў арганізатарам першых масавых мінскіх “Дзядоў” у 1988-м, стваральнікам таварыстваў “Тутэйшыя”, “Мартыралог Беларусі”, Беларускага Народнага Фронту, дырэктарам музея Максіма Багдановіча, дэпутатам Мінскага гарадскога Савета; ні пра яго цяперашнюю дзейнасць як старшыні праваабарончага цэнтра “Вясна” і віцэ-прэзідэнта Міжнароднай федэрацыі правоў чалавека...

Алесь Бяляцкі выглядаў спакойна, усміхаўся, вітаў з-за кратаў сваіх знаёмцаў. А ягоныя сваякі ды сябры, калегі-праваабаронцы, якія прыехалі на гэты працэс з розных краін свету, казалі, што шакіраваныя відовішчам.

На словы судовай сакратаркі “Устаць, суд ідзе!” Алесь узняўся з дубовай лавы. Клетка была вялікая, паўтара метра на тры, высокая, каля двух метраў, да залы пастаўленая бокам. Яе жалезныя палосы і пруты былі свежа пафарбаваныя ў белы колер. З тыльнага боку да клеткі мацаваліся кратаваныя дзверы з замком, каля якіх стаяў канваір. Яшчэ адзін



міліцыянт-канваір з пісталетам і дубінкай ахоўваў клетку з боку залы, спінай ён затуляў аб’ектывы журналісцкіх фотакамер. У такую клетку на судах за Плошчу, якія масава адбываліся ў Мінску на працягу мінулых вясны і лета, змяшчалі да 5 падсудных. Яшчэ адна лаўка ў гэтай клетцы, за спінай Алеся, была вольная...

У перапынку расійскі праваабаронца **Валянцін Гефтэр**, які прыехаў падтрымаць Бяляцкага, сказаў мне:

“У клетцы ніякага чалавека не хочацца бачыць, ні калегу, ні нават ворагу не пажадаў бы гэтага. Як бы ні ставіцца да абвінавачанняў па сутнасці, чалавек не павінен сядзець да высвятлення прысуду ці ўступлення прысуду ў законную сілу ў клетцы. Нават ва ўмовах таго, што адбываецца ў Беларусі, дзеля чаго было неабходна так раздзімаць статус ахвяры рэжыму?”

Сябры Бяляцкага з “Вясны” ў шматлікіх хадайніцтвах і паручальніцтвах за Алеся даводзілі, што няма ніякай патрэбы трымаць яго пад вартай, бо яго не абвінавачвалі ў нейкім гвалтоўным злачынстве і не было ніякіх довадаў, што ён можа ўцячы ад суда. Алеся маглі трымаць пад падпіскай аб нявыездзе, як звычайна робяць з іншымі, хто абвінавачаны паводле эканамічных артыкулаў Крымінальнага кодэкса.

**Намеснік старшыні “Вясны” юрыст Валянцін Стэфановіч** прызнае, што дзейныя законы гэтай клеткай не парушаны. Але клетка дае выразны сігнал, што чалавек ужо прызнаны вінаватым і пакараны яшчэ да абвяшчэння выраку. У Беларусі на гэты конт нават з’явілася прыкмета: калі ты сваімі нагамі прыйшоў у суд, то, хутчэй за ўсё, сам з яго і пойдзеш. А калі ты быў пад вартай да суда і ў клетцы ў час працэсу — то разлічваць на больш мяккае пакаранне, не звязанае з пазбаўленнем волі, складана.

У Беларусі стала нормай судзіць асоб, у адносінах да якіх абрана мера стрымання ў выглядзе знаходжання пад вартай, менавіта ў “клетках падсудных”. Палітычныя працэсы тут не выключэнне. Калі ў 1998 годзе за надпісы “Жыве Беларусь!” на будынку райвыканкама ў Стоўбцах і “Кат” на помніку Дзяржынскаму судзілі 19-гадовага Аляксея Шыдлоўскага і 16-гадовага Вадзіма Лабковіча, дык мала таго, што падсудных трымалі ў такой самай клетцы, іх яшчэ вартаваў канвойны нарад з сабакамі, чаго не было нават падчас суда над выканаўцамі мінскага тэракта 11 красавіка 2011 года...

Тады ж, у 1998-м, калі судзілі двойчы Героя Працы 74-гадовага Васіля Старавойтава, кіраўніка ЗАТ “Рассвет”, які крытыкаваў Лукашэнку, выявілася, што ў Кіраўскім раённым судзе Магілёўскай вобласці няма жалезнай клеткі для падсудных. І яе адмыслова зварылі перад судом. У новай металічнай клетцы стары аграрнік праседзеў увесь працэс і нават не ўставаў, калі яму зачытвалі вырак. Старавойтава таксама судзілі паводле эканамічных артыкулаў Крымінальнага кодэкса.

“Гэта рабілася, каб прынізіць, растаптаць чалавечую годнасць, прымусіць адчуваць сябе няўтульна ў працэсе, глядзець на свет праз гэтыя жалезныя пруты: на суд, на жонку, на адваката, на аднавяскоўцаў... Усё гэта адмыслова робіцца, бо наша ўлада дэспатычная ў сваім стаўленні да людзей”, — гэтак ацэньвае той эпізод юрыст і праваабаронца Гары Паганяйла, які быў адвакатам Старавойтава.

* * *

У лютым 2011 года **Алесь Бяляцкі** наведаў Туніс, першую краіну рэвалюцыйнай “арабскай вясны”. Разам са сваімі калегамі-праваабаронцамі і палітыкамі з Туніса і ўсяго свету Алесь абмяркоўваў шляхі дэмакратычнай трансфармацыі гэтай краіны. Былы прэзідэнт Туніса Бен Алі, які нязменна правіў з 1987 года і на выбарах у 2010-м зноў стаў “усенароднаабраным”, у студзені 2011 года разам з сям’ёю ўцёк з краіны.

У той час, калі Бяляцкі ўжо быў за кратамі ў сябе на радзіме, у Тунісе абралі новага прэзідэнта. Ім стаў былы апазіцыянер, праваабаронца Мансэф Марзукі. Раней у сваіх краінах прэзідэнтамі рабіліся былыя палітвязні Вацлаў Гавел, Нэльсан Мандэла, Лех Валенса...

У адрозненне ад іх Бяляцкі не зможа стаць прэзідэнтам сваёй краіны, кажа ягоная паплечніца з “Вясны” **Таццяна Равяка**:

“Справа ў тым, што паводле Канстытуцыі прэзідэнтам Беларусі можа быць толькі грамадзянін краіны ад нараджэння, а Алесь нарадзіўся ў Расіі. Але ён абавязкова зойме годнае месца ў вольнай Беларусі”.

Пакуль жа ў біяграфіі Алеся Бяляцкага пачаўся новы этап. Ён стаў зняволеным, зэкам, палітвязнем. Суд пастанавіў, што ў такім статусе ён мае адбыць чатыры з паловай гады. Не выключана, што тым часам Алесь стане лаўрэатам Нобелеўскай прэміі міру, на якую яго вылучылі пасля зняволення. Гэтаксама, як у 1935 годзе лаўрэатам Нобеля стаў нямецкі антыфашыст Карл фон Асецкі, які быў вязнем канцлагера. Альбо як бірманская апазіцыянерка Аун Сан Су Чжы, што атрымала прэмію ў 1991-м, седзячы пад хатнім арыштам...

* * *

Гучны крымінальны працэс над Алесем Бяляцкім цягнуўся 7 дзён з перапынкамі, з 2 да 24 лістапада 2011 года. Я прыходзіў у суд як журналіст Радыё Свабода, з ноўтбукам і дыктафонам, адсюль перадаваў інфармацыю на сайт і ў эфір радыё. І былі ночы на роздум.

Кожны дзень працэсу, дачакаўшыся сваёй чаргі, пасля прыдзірлівых праверак міліцыянтаў у форме і ў цывільным, з параскрыванымі імі торбамі ў абедзвюх руках я заходзіў у залу і вітаўся з Алесем. Ён адказваў мне ўсмешкай і ўзмахам рукі. З клеткі.

ДАРЭЧЫ

## Алесь Бяляцкі намінаваны на Сахараўскую прэмію

За вылучэнне Бяляцкага на прэмію Еўрапарламента імя Андрэя Сахарава “За свабоду думкі” падпісаліся польскі дэпутат Яцак Сарыуш-Вольскі, ініцыятар вылучэння, і яшчэ 82 еўрапарламентарыі.

Акрамя Бяляцкага ў спісе расійскі панк-гурт Pussy Riot, праваабаронца з Пакістана Джосэф Франсіс, тры праваабаронцы з Руанды Віктуар Інгабір, Дэагратыяс Мушаідзі і Бернар Нтаганда, а таксама адвакат Насрын Сатудэ з Ірана і яшчэ адзін прадстаўнік гэтай краіны рэжысёр Джафар Панаі.

Прэмія імя Сахарава заснавана Еўрапарламентам у 1988 годзе. Яна прысуджаецца людзям і арганізацыям, якія прысвячаюць сваё жыццё і дзейнасць абароне правоў чалавека і яго свабод, перш за ўсё свабоды слова.

Прадстаўнікі Беларусі ўжо атрымлівалі Сахараўскую прэмію: у 2004 годзе прэміі было ўдастоена грамадскае аб’яднанне “Беларуская асацыяцыя журналістаў”, у 2006 годзе — экс-кандыдат у прэзідэнты Аляксандр Мілінкевіч.

НУ И НУ!

# Козик и его козни

*Официальные профсоюзы приняли решение о начале кампании за отмену статьи 365 Трудового кодекса.*

Они считают, что перетрудились при заключении коллективных договоров. Поэтому будут добиваться, чтобы на тех, кто не состоит в профсоюзе, положения договора не распространялись.

Председатель ФПБ Леонид Козик, много лет продвигающий эту инициативу, утверждает, что подлость в отношении непрофсоюзных товарищей давно вынашивали “низы”.

“Этот вопрос постоянно поднимают члены профсоюзов, которые считают несправедливым, что остальные представители трудового коллектива просто паразитируют на их работе. В разработке коллективного договора они не участвуют, переговоры с нанимателем не ведут, на собраниях коллектива их тоже никогда нет, на субботники они не ходят. Так почему они должны иметь те же дополнительные привилегии, что и члены профсоюза? Зарплата, да — она платится за труд, а дополнительные поощрения — это не для всех”, — заявил Леонид Козик на Пленуме ФПБ, который прошел на прошлой неделе. И предложил начать сбор подписей за внесение изменений в Трудовой кодекс.

Напомним, что статья 365 Трудового кодекса определяет, что коллективный договор распространяется на всех работников предприятия. Этим документом определяется организация труда, нормирование и система оплаты труда, продолжительность рабочего времени и времени отдыха, вопросы строительства, содержания и распределения жилья и многое другое. Поскольку в последнее время наблюдаются прецеденты массового выхода из официального профсоюза и угрозы такого выхода, то ФПБ, видимо, решила припугнуть людей: выйдете — останетесь без общежитий и премий. По этой логике следующей инициативой официального профсоюза может стать следующая: кто не вышел на весенний субботник — не должен ходить по улицам города.

**Ирина МАЛЬЦЕВА.**

## Газу будзем купляць больш

Беларусь у 2013 годзе імпартуе 23 мільярды куб.м прыроднага газу, чакаецца таксама павелічэнне транзіту праз тэрыторыю краіны. Такую заяву зрабіў прэм’ер-міністр Беларусі Міхаіл Мясніковіч. *“У адпаведнасці з дамоўленасцямі з расійскім бокам унутраны рынак у нас поўнасцю забяспечваецца бяспошлінна нафтай, мы дамовіліся на 23 мільярды кубаметраў газу,* — адзначыў Міхаіл Мясніковіч. І ўдакладніў: — *Мы перапампоўваем сёння газу больш, чым гэта было ў 2011-м або 2010-м”.*

## Праезд падаражэў на 110%

У студзені—жніўні 2012 года ў параўнанні са студзенем—жніўнем 2011 года кошт праезду пасажыраў чыгуначным транспартам у міжнародных зносінах узрос у 2,1 раза (на 110%).

Пра гэта паведамляе БелаПАН са спасылкай на Белстат.

Кошт праезду аўтамабілем-таксі і аўтобусам прыгарадных зносін павялічыўся ў 2,1 раза, аўтобусам міжгародніх зносін — у 1,9 раза, гарадскім транспартам — у 1,8 раза, паветраным транспартам — у 1,7 раза.

## На новыя мікрараёны грошай няма

Сталічны раён “Зялёны Бор” каля Калодзішчаў хутчэй за ўсё пабудаваны не будзе. Як вядома, на тэрыторыі за МКАД меркавалася будаўніцтва 17 мікрараёнаў, разлічаных на пражыванне 160 тысяч чалавек. Да раёна збіраліся працягнуць новую аўтамабільную трасу, а таксама пусціць гарадскую электрычку, пабудаваць ЦЭЦ. Аднак, як піша “Мінскі кур’ер”, зараз праекціроўшчыкі разглядаюць магчымасць змены тыпу забудовы, бо бюджэт Мінска не можа забяспечыць будаўніцтва камунікацый.

— Праект дэталёвай планіроўкі пакуль не зацверджаны, экспертызы па ім прыпынены, таму што разлікі паказалі: гарадскому бюджэту занадта дорага абыдуцца цяжкія шматкіламетровыя сеткі для новага раёна, — патлумачыў дырэктар УП “Мінскграда” Леанід Добыш. — Цяпер “Мінскпраект” па просьбе Мінгарвыканкама разглядае магчымасць узвядзення ў Зялёным Бары блакаванай забудовы тыпу таўнхаўс. Такі прыём можа знізіць нагрузку на тэрыторыю, але даць сярэдняплотную забудову, патрабаваную па ПДП.

Леанід Добыш дадаў, што ў гэтым месяцы новае эскізнае рашэнне раёна ў малаэтажным выкананні плануецца прадставіць прэзідэнту краіны.

УВАГА!

## Рэха вайны

*У Мінску на беразе Свіслачы знойдзены арсенал часоў Вялікай Айчыннай вайны. Таксама арсенал знойдзены і абясшкоджаны падчас правядзення земляных работ у пасёлку Калодзішчы Мінскага раёна.*

У сталіцы небяспечныя прадметы знайшлі ў лясным масіве каля ракі насупраць аднаго з будынкаў на вуліцы Убарэвіча. Дзве гранаты “Ф1”, адна ружэйная граната, 15 мінных узрывальнікаў, 7 артылерыйскіх узрывальнікаў, 74 запалы да гранат, артылерыйскі снарад калібрам 76 мм і мінамётная міна 50 мм — вось такі вялікі арсенал абясшкодзіла група размініравання ў сталіцы.

У свой час УУС Мінаблвыканкама паведаміла, што выяўлены страшэнны скарб і ў пасёлку Калодзішчы. Там праводзілі земляныя работы і выпадкова знайшлі два артылерыйскія снарады (калібр 37 мм і 57 мм) з узрывальнікамі і артылерыйскі ўзрывальнік часоў Вялікай Айчыннай вайны. Усе боепрыпасы былі знішчаны сапёрна-піратэхнічнай групай унутраных войск.

ОТКРЫТОЕ ПИСЬМО

# Я продолжаю утверждать, что в отношении меня сотрудниками милиции совершено преступление

*Генеральному прокурору Республики Беларусь А.В.Конюку*

Уважаемый Александр Владимирович!

Вынужден обратиться к Вам публично со страниц газеты “Народная Воля”, так как надежды на адекватную реакцию на заявление о совершении в отношении меня преступления нет.

Немного предыстории без утомительных подробностей.

22 декабря 2011 года я обратился в прокуратуру Московского района с заявлением о привлечении к уголовной ответственности лиц, которые 19.12.2011 года, находясь при исполнении служебных обязанностей, сфальсифицировали документы путем предоставления заведомо ложных сведений, на основании которых в отношении меня был составлен административный протокол.

Впоследствии по решению суда, основанному на сфальсифицированных документах и заведомо ложных свидетельских показаниях сотрудников милиции **А.А.Бирули** и **А.Н.Гугнюка,** я был лишен свободы, т.е. подвергнут административному аресту сроком на 5 (пять) суток. Таким образом, были существенно нарушены мои права и законные интересы.

В своем заявлении я собственноручно указал, что предупрежден об уголовной ответственности за заведомо ложный донос.

Написал я это заявление осознанно и вполне резонно рассчитывал на объективную его проверку. Думаю, Вы со мной согласитесь, что перед должностными лицами, на рассмотрении которых оно находилось, стояла простая задача: должным образом зарегистрировать заявление и в соответствии с Уголовно-процессуальным кодексом его разрешить. Т.е. опросить всех заинтересованных лиц, свидетелей, в которых, к слову, недостатка нет, проверить и оценить предоставленные доказательства, которых тоже вполне достаточно и в конечном итоге привлечь к установленной законом ответственности виновных: либо меня за заведомо ложный донос, либо сотрудников милиции за превышение своих служебных полномочий и фальсификацию юридически значимых документов. Говорю об этом как бывший старший оперуполномоченный уголовного розыска по особо важным делам.

Казалось бы, что тут сложного?

Но на практике все оказалось не так просто. Мое заявление стало кочевать из прокуратуры в ГУСБ МВД, оттуда в ГУВД и т.д. Когда отправлять заявление стало некуда, образовался ступор продолжительностью в несколько месяцев. Не получив ответа, я, естественно, заподозрил, что заявление “съели”, и был вынужден повторно обратиться в прокуратуру Московского района с требованием повторно рассмотреть мое заявление по существу и привлечь виновных к ответственности. Как Вы, наверное, догадались, второе заявление повторило путь первого, спустившись до самого что ни на есть дна. И наконец спустя полгода, 19.06.2012 г., из Московского РУВД я получил очень “емкий и исчерпывающий” ответ. Цитирую: *“По результатам проверки сообщаю, что все Ваши обращения, поступавшие в Московское РУВД г. Минска, рассмотрены. О результатах рассмотрения в Ваш адрес направлялись ответы в установленный законом срок”.* И все!!!

Я не верю, что милиция деградировала настолько. Поэтому напрашивается вывод, что все материалы проверки, если она вообще проводилась, сфальсифицированы.

При этом считаю необходимым прокричать, что за все эти шесть месяцев никто не удосужился проверить имеющиеся доказательства. Не опросили ни меня как потерпевшего, ни свидетелей моего задержания. Напомню, я утверждал и продолжаю утверждать, что в отношении меня сотрудниками милиции **совершено преступление**. Вам, полагаю, тоже становится понятным, что подобного качества проверка по заявлению о совершенном преступлении очень даже подпадает под действие Уголовного кодекса. Т.е. человек, укрывший преступление, — сам преступник.

Все произошедшее со мной и творящийся вокруг беспредел все больше укрепляют во мне уверенность, что в правоохранительных органах, упиваясь безнаказанностью, процветает организованная преступная группа с четко распределенными ролями.

Как в любой организованной преступной группе, самую грязную работу, естественно, поручили самым недалеким и ни на что больше не годным, отъявленным негодяям, которые в нашем случае одеты (ряжены) в форму сотрудников милиции. Их роль заключается в выполнении очевидно незаконного приказа по произвольному, немотивированному задержанию граждан (в данном случае — меня), фальсификации документов (рапортов), на основании которых составляются априори сфальсифицированные протоколы. Далее все это криминальное творчество направляется в суд. И уже там “высокий суд”, выключая рассудок и остатки совести, успокаивая себя тезисом о том, что им нет оснований не доверять очевидному бреду свидетелей-милиционеров, прибавляя к этому якобы свою внутреннюю убежденность (революционную целесообразность), выносит очевидно неправосудные решения. В моем случае, напомню, это пять суток ареста.

**Все это стало возможным благодаря молчаливому бездействию прокуратуры.**

Я обращаюсь к Вам в надежде, что Вы не успели стать активным участником правового беспредела.

**Я требую рассмотреть мое заявление по существу и привлечь виновных к установленной законом ответственности.**

И еще несколько слов о творящемся в стране беспределе. Я знаю, что не являюсь единственной его жертвой, и думаю, что передам общее настроение. Отказывая людям в праве на объективное разбирательство, в праве на защиту и справедливый суд, вы (я имею в виду всю правоохранительную и судебную системы, да и власть в целом) сами становитесь вне закона, переходите в ранг преступников. Делая вид, что ничего не знаете, не видите, и не желая ничего слышать, вы провоцируете людей в отчаянии искать другие способы защиты.

Думаю, это касается всех аспектов нашей жизни, которые упоминаются в Конституции как гарантированные права граждан.

**Николай Георгиевич КОЗЛОВ, подполковник милиции в запасе.**



## Досье «Народной Воли»

О подполковнике милиции в запасе Николае Козлове вся страна узнала в 2010 году, когда накануне президентских выборов он со страниц “Народной Воли” рассказал о скандальном факте фальсификации результатов досрочного голосования в Палату представителей Национального собрания Республики Беларусь в сентябре 2008 года. Тогда Николай Козлов стал свидетелем того, как после закрытия участка, на котором он нес дежурство, члены избирательной комиссии вбрасывали в опечатанную урну бюллетени. О данном факте подполковник милиции сообщил своему руководству, требовал разбирательства, но вместо этого был вынужден уйти из органов.

19 декабря прошлого года люди в штатском задержали Николая Козлова в Минске на пешеходном переходе возле Октябрьской площади, а позже в милицейском рапорте написали, что Козлов был задержан совершенно в ином месте — у Красного костела. И задержан был якобы за то, что ругался матом и нарушал покой граждан. На основании этого рапорта подполковника милиции в запасе судья Московского районного суда Минска Елена Черняк осудила на пять суток ареста. Выйдя из следственного изолятора, Николай Козлов решение Московского суда обжаловал в Минском городском суде. Однако судья Владимир Хробастов, несмотря на показания четырех свидетелей, подтверждавших, что Козлов не мог находиться у Красного костела в то время, которое было указано в милицейском рапорте, оставил без изменения решение суда Московского района. Кроме того, Николай Козлов 22 декабря 2011 года обратился в прокуратуру Московского района с заявлением о привлечении к уголовной ответственности милиционеров, которые сфальсифицировали рапорт в отношении него.

ОСТРАЯ ПРОБЛЕМА

# Пенсионный возраст надо повышать! Не откладывая...



О том, что пенсионная система Беларуси приближается к кризису, знают немногие. Внешнее благополучие, создаваемое своевременной выплатой пенсий и даже их небольшим ростом, вроде бы не дает поводов для особого беспокойства. Но внешнее благополучие нередко бывает обманчивым. Население Беларуси заметно стареет, сегодня наш средний возраст достиг 40 лет, а ведь еще недавно по данным переписи 1999 года, он составлял 37 лет. К тому же численность жителей страны убавляется — за последние 10 лет она сократилась более чем на полмиллиона человек.

По расчетам специалистов, доля пенсионеров в стране к 2030 году достигнет 30 процентов. Доля населения в трудоспособном возрасте, насчитывающая сегодня 5,85 миллиона человек, сократится примерно на 1 миллион. Солидарная пенсионная система, действующая в Беларуси, означает, что пенсионеров содержат работающие граждане, отчисляя из зарплаты пенсионный налог. Уже сегодня этих отчислений начинает не хватать. Завтра пенсионная нагрузка на экономику страны станет еще больше.

В отчете рабочей группы Всемирного банка, посетившей нашу страну в 2011 году, говорится: *"Старение населения будет увеличивать нагрузку на пенсионную систему Беларуси. Вследствие этого, согласно прогнозам, уже в 2014 году профицит бюджета пенсионного фонда сменится структурным дефицитом"*. Схожие прогнозы делают и белорусские власти. В "Национальной программе демографической безопасности на 2011—2015 годы", которая была утверждена президентским указом, отмечается: *"При существующих тенденциях к 2030 году на тысячу трудоспособных белорусов будет приходиться 841 человек в нетрудоспособном возрасте (в 2010 году — 693 человека)".* Что это означает на практике? К сожалению, только неизбежное ухудшение пенсионного обеспечения, ведь каждому работающему практически придется на свою зарплату содержать одного пенсионера. Многие ли способны (да и согласятся ли) на это?

Беларусь далеко не единственная постсоветская страна, ставшая перед проблемой спасения, иного слова и не подберешь, своих пенсионеров от нищенского существования. В Украине, Польше, странах Балтии уже много лет реализуются планы поэтапного реформирования пенсионного законодательства. В частности, "подтягивается" к 60—62 годам пенсионный возраст у женщин, внедряются элементы накопительной системы, увеличивается минимальный стаж, необходимый для получения трудовой пенсии. В России после пенсионной реформы 2002 года готовится проект очередного этапа реформ, который до конца этого года должен быть вынесен на обсуждение высшего законодательного органа.

По всей видимости, чреватость нынешней застойной ситуации в пенсионном обеспечении начинает осознавать и белорусское правительство. Президентским указом №136 от 18 марта 2012 года всем, кто достиг пенсионного возраста после этой даты, предоставлено право более позднего выхода на пенсию с ее ежегодным увеличением в случае продолжения трудовой деятельности. Казалось бы, первый небольшой шаг к улучшению пенсионного законодательства сделан. Однако многие эксперты высказались критически по отношению к данному нововведению, поскольку не без оснований посчитали, что введенная "льгота" не будет пользоваться популярностью среди пенсионеров, а значит, ничего по большому счету не меняет. Более того, создавая только видимость преобразований, фактически консервирует ситуацию, уводит в сторону от реальной реформы.

Сегодня представляется занятием малопродуктивным и попытка прогнозировать последствия для пенсионной системы страны реализации предложения Министерства финансов об изменении ставки налога, перечисляемого работодателем в Фонд социальной защиты населения, точнее о перераспределении налоговой нагрузки между нанимателем и работником. Как известно, согласно действующему законодательству, наниматель ежемесячно перечисляет 34 процента от фонда заработной платы, работник — 1% своей зарплаты. Ставки, по предварительной информации, предлагается изменить на 19 и 16 процентов соответственно. Излишне говорить о том, какую реакцию работающих может вызвать это решение в случае его реализации. "Отдавать" 28 процентов зарплаты (12 процентов подоходный налог и 16 процентов в пенсионный фонд) — к этому сегодня определенно не готовы даже самые лояльные граждане.

Расчет же Минфина на то, что такая мера позволит значительно сократить количество зарплат "в конвертах", повысить отчисления на зарплату работников и усилить их заинтересованность в формировании пенсионного фонда очевидно не оправдан, что убедительно доказывает опыт все той же России, где подобные эксперименты дважды терпели неудачу.

Но тогда какие меры могут реально продвинуть процесс, стать началом жизненно необходимой реформы? В ситуации, когда население страны меняет статус с "трудоспособное" на "нетрудоспособное" опережающими темпами и уже через несколько лет три миллиона пенсионеров могут стать неподъемным социальным балластом для страны с неустойчивой проблемной экономикой, решающее значение начинает приобретать фактор времени. Ничего не предпринимать еще год-два для белорусского правительства непростительная безалаберность. Тем более что способов решения проблемы всего несколько и они хорошо известны. Повышение пенсионного возраста. Введение условно-накопительной системы. Стимулирование более позднего выхода на пенсию. Всего три. Конечно, если иметь в виду, что повышать налоги дальше уже некуда, а об изменении параметров госбюджета для увеличения финансирования пенсионного фонда за счет сокращения других статей или об использовании доходов от приватизации — не стоит даже вспоминать.

Повышение пенсионного возраста — всегда вынужденный, но при этом наиболее эффективный способ укрепления пенсионных систем, принятый в большинстве стран мира, у нас с одобрения верховного руководства считается "политически неприемлемым" в силу крайней непопулярности его среди трудящихся масс. К тому же, бесспорно, весомым аргументом является невысокая продолжительность жизни, особенно среди мужчин. По всей видимости, такая точка зрения преобладает не только в "верхах" и, в принципе, не лишена смысла. Но попробуем взглянуть на факты под другим углом.

В развитых странах пенсионный возраст был поэтапно повышен (или повышается в настоящее время) до 65—67 лет. Средняя продолжительность жизни там превышает 75 лет для мужчин и 80 лет для женщин. В Беларуси мужчины живут в среднем 64,8 года, женщины — 76,6. Разница ощутимая, особенно, как уже отмечалось, в отношении мужчин. Однако важно учитывать и другое соотношение — количество лет, которые человек проработал, и количество лет, прожитых на пенсии. Сравните: в западных странах женщины работают 40—45 лет и проводят на пенсии 18—20 лет. В Беларуси работают 37—38 лет и проводят на пенсии 22—23 года. Нетрудно заметить, что данное соотношение сложилось явно в пользу наших женщин.

Мужчины — другое дело. Казалось бы, мизерная разница между усредненным показателем продолжительности жизни и возрастом выхода на пенсию (всего около пяти лет) напрочь должна исключить всякие разговоры о возможности увеличения пенсионного возраста. Однако и здесь есть скрытые от некритичного взгляда детали. Крайне низкий средний показатель продолжительности жизни мужчин во многом является следствием высокой смертности как раз в допенсионный период (15—60 лет) и связан с рискованным поведением и, в целом, образом жизни сильной половины белорусов. Курение, злоупотребление алкоголем, неправильное питание, пренебрежение своевременным лечением, профессиональные и другие риски — все это привело к тому, что смертность в этом возрасте у нас в 3,5—4 раза превышает аналогичный показатель в странах Европейского Союза. Те же, кто достиг пенсионного возраста, живут в среднем еще 11—14 лет.

Исходя из сказанного, зададимся вопросом: так ли уж несправедливо прозвучит сегодня предложение о повышении пенсионного возраста, например, для женщин на 2—3 года (причем не сразу, а в течение нескольких лет), если период их пребывания на пенсии значительно превышает среднемировой показатель? И это при более раннем выходе на пенсию и сопоставимой продолжительности жизни. Более того, согласно все тем же статистическим данным, каждый четвертый белорусский пенсионер после выхода на пенсию продолжает работать. Это в среднем. А в первые пенсионные годы продолжают трудовую деятельность более половины пожилых людей. Поэтому психологического шока от постепенного увеличения пенсионного возраста на 2—3 года не испытает никто.

Здесь важно понять, что проблема пенсионного возраста уже не просто тема для досужих разговоров и неспешного обсуждения. Для наших пенсионеров — и нынешних, и будущих — это вопрос выживания в сложных социальных и экономических условиях, ведь дешевого газа может надолго не хватить.

**Петр ГОЛОСОВ,**
**директор Социального информационного учреждения "Второе дыхание".**

ИЗ ПИСЬМА

## Уходя, сделай доброе дело

Эти слова я адресую депутатам Палаты представителей, которые вот-вот сложат свои полномочия. На прощание сделайте доброе дело. Внесите в срочном порядке поправку в закон о милиции, которая бы при возбуждении административного процесса против оппозиционера, задержанного на улице якобы за нецензурщину, требовала представления в суд как минимум двух свидетелей из числа гражданских лиц.

Сейчас судьи верят милиционерам, но не верят задержанным и их свидетелям. Где, в какой стране подобное может быть? Практика наших правоохранительных органов идет вразрез с Конституцией. Налицо грубейшее нарушение прав человека.

Вот почему я предлагаю действующим депутатам напоследок принять соответствующую поправку в закон о милиции.

**З.Р.СЕНЬКО.**

*г.Мозырь.*

МЫСЛИ ВСЛУХ

# А вы задайте вопросы и задумайтесь...

*Прежде чем идти на голосование, давайте зададим нынешним властям следующие вопросы:*

1. Где Юрий Захаренко, Виктор Гончар, Анатолий Красовский, Дмитрий Завадский? Почему те, кто их убил, ходят на свободе?
2. Почему в стране процветает взяточничество и коррупция?
3. Почему свобода слова только для избранных?
4. Почему пенсии государственных служащих существенно выше, чем у рядовых пенсионеров?
5. Почему грамотные, квалифицированные кадры ищут лучшей доли за пределами Беларуси?
6. Почему такие важные решения в государстве, как строительство атомной станции, создание индустриального парка в Смолевичском районе и другие, принимаются без общественного обсуждения?
7. Почему важнее строительство очередного ледового дворца, чем приобретение в поликлиники и больницы современного медицинского оборудования? (На собственном примере убедилась и могу сказать, что сделать диагностическое обследование ускоренными темпами можно только тогда, когда польются слезы ручьем от кровоточащей раны и беспомощности. Мое обследование производилось на платной основе, бесплатной диагностики, наверное, не дождалась бы.)
8. Почему попасть к врачу на прием возможно только в течение месяца, а к некоторым профильным врачам и двух месяцев недостаточно?

Перечень вопросов каждый из вас, уважаемые избиратели, может продолжить. Ответы, я думаю, вам ясны. Как и понятно то, из кого формируется у нас так называемая Палата представителей. Вот почему я лично на заключительном этапе решила не участвовать в сомнительных выборах.

**Нина Ивановна КОЛЕДА, минчанка.**

ПАЗІЦЫЯ

## Пачынаць трэба з дэмакрытыі...

Сёння нават далёкі ад палітыкі чалавек разумее, што дабрабыт народа пачынаецца з будаўніцтва дэмакратыі. На жаль, я не чуў, каб хтосьці з кандыдатаў у дэпутаты сказаў, што будзе рашуча змагацца, не шкадуючы свайго жыцця:

1. за вяртанне Канстытуцыі 1994 г.;
2. за адмену сумніўных рэферэндумаў 1995-га, 1996-га і 2004 гадоў;
3. за Беларусь як парламенцкую рэспубліку;
4. за прыцягненне да крымінальнай адказнасці злачынцаў, якія выкралі вядомых людзей — Юрыя Захаранку, Віктара Ганчара, Анатоля Красоўскага, Дзмітрыя Завадскага;
5. за прыняцце закона аб незалежных прафсаюзах;
6. за прызнанне незаконнымі хаўрусаў накшталт "Саюзнай дзяржавы" і іншых;
7. за непарушнасць дзяржаўнай мяжы як на захадзе, так і на ўсходзе Беларусі (бо зараз на ўсходзе яе фактычна няма);
8. за тое, каб беларуская мова была адзінай дзяржаўнай;
9. за наданне ўніяцкай царкве статусу роўнай з другімі канфесіямі;
10. за прыняцце закона, які асуджаў бы камуністычны рэжым 1918—1991 гг. як злачынства перад чалавецтвам;
11. за адмену датэрміновага галасавання...

Пералік можна падаўжаць. Толькі тых кандыдатаў, лічу, можна было б падтрымаць, якія сваю праграму пабудавалі б, зыходзячы вось з гэтых фундаментальных каштоўнасцяў. Але такіх прэтэндэнтаў на дэпутацкія мандаты я пакуль не сустрэў. Таму ўдзельнічаць у выбарчым спектаклі я не маю намеру.

**Мікола КАНАХОВІЧ, ветэран Узброеных сіл.**

*г.Пружаны.*

ТВОРЧАСЦЬ ЧЫТАЧОЎ

## Скажы ты мне, Панкрат...

— Скажы ты, калі ласка, мне, Панкрат,
Хто лепшы з іх — ці бюракрат, ці дэмакрат?
— Адна халера, я скажу табе, Кандрат, —
Да выбараў з іх кожны дэмакрат,
А пройдуць выбары — і ўжо ён бюракрат.
Бо пасля выбараў — з іх кожны таму рад —
Трапляюць ўсе ў бюракратычны апарат.
А там, каб за сабой пасаду захаваць,
Павінен з іншымі ты ў адну дудку граць.
Ну а захочаш голас свой падаць,
Няшмат хто знойдзецца, цябе каб падтрымаць.
І мусіш меншасцю ў парламенце ты стаць,
А большасць будзе ўсе пытанні вырашаць.
— Напэўна, лепей бы было, Панкрат,
Каб быў з такіх, як мы з табою, дэпутат?
— Такі на мове грэкаў зваўся б алхакрат,
Бо недасведчаны б народ ён прадстаўляў,
І днём адным жыў, зменаў не жадаў —
Калі ёсць хлеб, відовішчы, віно,
Тады з любой уладай охлас заадно.
Сядзеў бы нішкам наш з табою дэпутат,
А не турбуюць з выступамі, — рад.
Ён з гонарам насіў бы свой мандат,
І ставіўся б з удзячнасцю да ўлад.
— А як жа з выбарамі быць, Панкрат, скажы:
Павінны ж у дзяржавы быць гужы?
Як разабрацца тут, каго нам выбіраць?
— Пра выбары бясконца можна разважаць.
Адно вядома — іншы будзе тузаць за гужы,
Хоць ты свой бюлетэнь да скрыні прывяжы.
На выбары ты маеш права не ісці,
А калі вельмі ўжо карціць табе пайсці —
Ты на сустрэчу з кандыдатамі схадзі,
Развaж, чаго хто варты, ў вочы паглядзі,
Хто больш дасведчаны, упэўнены ў сабе,
Чым імпануе гэты чалавек табе.
Ты ахламона здолей у душы забіць.
Свой выбар як свабодны чалавек зрабі.
І нават, калі твой не пройдзе кандыдат,
Ты будзеш ведаць, што сумленне — твой мандат.

**Купрыян ЦЕРАБІЛКІН.**

ФОТАКОНКУРС



**Ураджай 2012 года. Георгій Сёмуха. Мінскі раён.**

ВОДГУК

## Рэферэндум не дапаможа

Прачытаў у "Народнай Волі", што некаторыя кандыдаты ў дэпутаты прапануюць вынесці на рэферэндум пытанне аб будаўніцтве АЭС.

Ці хіба ініцыятары плебісцыту ўжо забыліся, чым заканчваюцца ў нас рэферэндумы?!

У "Народнай Волі" друкаваліся грунтоўныя артыкулы аб немэтазгоднасці будаўніцтва АЭС, але колькі беларусаў чыталі гэтыя артыкулы, а калі і чыталі, то што яны могуць зрабіць? А паводле рэферэндуму атрымаецца, што самым дэмакратычным чынам будзе ўзаконена будаўніцтва такога небяспечнага аб'екта.

Калі мы хочам, каб нашы дзеці і ўнукі яшчэ пажылі крыху без прыгод, то трэба весці сапраўдную барацьбу супраць будаўніцтва гэтай АЭС.

**Міхась ДУБЕНЧУКОЎ, чытач.**

МІНІ-ДЫЯЛОГ

## На ўступным экзамене ў ВНУ

*(Як дадатак да тэсціравання)*

**Экзаменатар**: Вы готовы адказваць?

**Абітурыент:** Так!

**Экзаменатар:** Калі ласка!

**Абітурыент**: Як быццам... тыпу... накшталт... карацей... як той казаў... як па БТ паказвалі... як у "СБ" пісалі... прыкольна... клёва... то неяк жа яно будзе...

**Экзаменатар:** Малады чалавек, дык вы ж нічога не ведаеце! І чаму, і як, і хто вас вучыў у школе?!

**Абітурыент:** А вы запытайцеся ў нашых настаўнікаў, дырэктара школы і, урэшце, у міністра адукацыі.

**Экзаменатар:** Вы гэта кіньце! Не трэба так!

**Абітурыент**: Чаму гэта не трэба? Трэба! І вы ж у іх вучыліся!

**Яўген ГУЧОК.**

НЕОБЫЧНЫЙ ВЗГЛЯД

## Способствуют спаиванию — пусть и хоронят

*Как сообщают официальные СМИ, наше "экономическое чудо" создало много рабочих мест, имеется много вакансий, не хватает рабочих рук. Но как много неработающих мужчин в трудоспособном возрасте коротают время возле пивных, приемных пунктов тары, на свалках, помойках! Они спились. На многих лицах еще остались следы интеллекта. Без боли на них смотреть невозможно. А ведь это люди. Все они грамотные, многие имеют профессии, образование.*

Сейчас они никому не нужны, а ведь всю свою сознательную жизнь работали на такие структуры, как "Кристалл", "Аліварыя", "Крыница" и другие. Эти производства имели баснословную прибыль. Так, может быть, они и должны позаботиться о своих клиентах? Лечить, адаптировать к трезвой жизни, помочь с жильем, работой. Если бы они 10% своей прибыли отдали на реабилитацию людей, пострадавших от алкоголя, у многих был бы шанс вернуться к трудовой жизни.

Рожаем, растим, обучаем, вкладываем средства, чтобы человек, став взрослым, отдал долги: государству, семье, в конце концов — человечеству. Но производители алкогольной продукции отнимают эти жизни ради своей выгоды, сверхприбыли. В таком случае пусть раскошелятся, займутся реабилитацией погибающих от алкоголя или хоронят их за свой счет и растят детей-сирот.

Водка, вино, пиво льются рекой, на каждом углу предлагают, провоцируют, навязывают. Молодежь организованно и эффективно подсаживают на алкогольную иглу. Когда молодой человек погибает в автомобильной аварии, во время военных действий, это трагедия, с которой в какой-то степени можно примириться. Но когда он погибает от алкоголя, потому что кто-то заинтересован любой ценой побольше продать пива, вина, водки, — это моральная катастрофа для общества.

Государство борется со всякими эпидемиями, но почему не борется с алкогольной угрозой, которая приняла форму эпидемии?!

**Евгения Павловна ДОГИЛЕВА.**

*Минск.*

СПРАВЫ ЖЫЦЦЁВЫЯ

# А як убраць?

Хачу выказаць свае меркаванні па праблемах звычайнага вяскоўца, якіх у нас яшчэ тысячы. Праблема не надта вялікая для дзяржавы, але вельмі важная для жыхара вёскі. Пытанне тычыцца ўборкі збажыны з прысядзібных участкаў.

Сітуацыя, як у той казцы, калі бедаку далі каня ехаць у лес па дровы, а вупражы не далі. Так і ў сённяшняга селяніна. Зямля ёсць, і так-сяк засееш, а вось уборка — рэч вельмі складаная. Тут селянін выступае як жабрак: і змалаціць трэба, але якія там намалоты... Часам, калі за ўсё заплаціць, то і ўраджай той не акупаецца. Але і калгаснае кіраўніцтва, і раённае патрабуюць: плаці за камбайн па поўнай. Бо за іншы падыход з іх яшчэ як кантралёры спытаюць. Але маё меркаванне такое: простая арыфметыка тут не пасуе.

Мой аграрны вопыт падказвае, што лічыць трэба трохі па-іншаму. Па-першае, навошта селяніну той кавалак збажыны? Ды таму, што, як ні кажы, а калгасная праца яшчэ не корміць калгасніка і яго сям'ю. А вось лішні мех збажыны дае магчымасць мець нейкі кавалак сала, яйка і так далей. Гэта, вядома, праца, але хто яе лічыць у сваім двары? І далей: людзі не на страйк ідуць, каб павысіць заробкі ці тую ж пенсію, а фактычна просяць для сябе магчымасці больш працаваць. Так што кіраўніцтва павінна радавацца гэтаму, бо ў выніку страты, панесеныя на ўборцы прысядзібных участкаў, абарочваюцца прыбыткамі. Бо ў вёсцы іншы маральны клімат, кожны мех з прыватнага ўчастка — гэта не скрадзены мех з фермы, менш п'янкі — лепшыя вынікі.

І яшчэ, нават калі і далі чалавеку камбайн, так-сяк змалацілі. І што са збожжам рабіць, калі яго змалацілі пасля дажджу? У калгасе ёсць збожжатакі, сушылкі, а што рабіць простаму чалавеку?

Шмат хто з кіраўнікоў лічыць, што трэба вынесці ўсе асабістыя ўчасткі ў агульнае поле, апрацоўваць яго агулам, а потым дзяліць ураджай па сярэдняй ураджайнасці і сабекошце, якія склаліся. Але гэта тое самае, што ўнутры калгаса стварыць яшчэ адзін калгас. Тым больш што ў свой час людзі аддалі не толькі ўчасткі, а ўсю зямлю ў калгас. І што атрымалася? Дзе тое збожжа?

Так што нічога тут не выкруціш. Трэба альбо плаціць людзям, што працуюць у калгасах, як след альбо дапамагаць калгаснікам апрацоўваць асабістыя падвор'і. Я гэта зразумеў даўно, і ў мой час з пачаткам уборкі збожжа ў калгасе некалькі старэнькіх камбайнаў ішлі ўбіраць прыватны хлеб паралельна з калгасным.

А зараз... Маю і суседскую збажыну зжалі, а вяскоўцы пакуль чакаюць: пайшлі дажджы.

**З павагай —**

**Мікалай ЮРКОЎ, пенсіянер, былы старшыня калгаса "Дрыбінскі".**

*Вёска Нікольск.*

ЭХО

## Я не согласна!

Прочла статью Л.Гащенко "Короткий поводок" ректора Солодкова". Впечатление такое, будто повеяло духом советских времен. О каком пресловутом "воспитании" можно говорить, когда речь идет о взрослых, вполне сформировавшихся людях? В вуз они идут за получением глубоких знаний, чтобы в дальнейшем применить их на практике, а вовсе не за тем, о чем пишет автор статьи, выдвигая идеологию на первый план. И я полностью на стороне ректора А.П.Солодкова и его подхода к обучению.

Считаю, что для патриотического воспитания есть у нас кадетские училища, такие организации, как БРСМ и прочие.

**Розалия Владимировна РУБИНЧИК, пенсионерка.**

*г.Минск.*

